

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 17 (454) 3 ТРАЎНЯ 2000 г.

## Чарнобыльскі шлях



26 чэрвеня з раніцы і да вечара перыядычна па радыё гучала інфармацыя, што сёння ўвечары чакаюцца ліўневыя дажджы, просьба не выходзіць на вуліцу. Удзень, калі я сказаў, што іду на Чарнобыльскі шлях, знаёмы студэнт спачувальна спытаў: "І вас гоняць?"

Дзеля таго, каб як мага скараціць колькасць удзельнікаў маршу, а іх урэшце было не менш за 40 тысяч, улады выкарысталі як і звычайна, такія гнюсныя метады.

Першае, запалохванне надвор'ем. Другое, прывезлі на аўтобусах, прыгналі ў вучэбны і рабочы час недзе тысячы паўтары, у 15 гадзін правялі свой улады мітынг і абвясцілі па радыё, што мітынг ужо адбыўся. Трэцяе, у парушэнне закона ўлады далі дазвол прыкладна за суткі да пачатку акцыі, што істотна перашкодзіла інфармацыі пра дазволены характар шэсця. Уся гэтая "дзэа" скараціла колькасць удзельнікаў шэсця як мінімум на палову.

Але нягледзячы на ўсе стараннi ўладаў акцыя прайшла ўдала. Ад галавы калоны не было бачна хваста. Арганізавана са сваімі штандартамі хлопцы з Белага Легіёна, за імі крочыла калона моладзі з БПС, Малады фронт. Была таксама і экзотыка. У калоне рушыла дэлегацыя карычневаскурых індусаў і індусак, побач крочылі інтэрнацыяналісты – анархісты, адзін сцяг у іх быў чырвоны з чорнай зоркай, а другі колеру піянерскага гальштука на палцы з доўгімі суч'ямі.

На мітынгу была не кепская апаратура, таму чуваць было ўсё вельмі добра. На пачатку праваслаўны святар прачытаў малітву. Выступалі Вінцук Вячорка, Юрый Хадыка, чэшскі сенатар зачытаў сваё выступленне па беларуску, адзначыўшы ў канцы, што гэтым самым аддае даніну павагі беларусам.

У адным з выступаў гучала, што па загаду з Масквы радыяцыйныя хмары былі пасаджаны на Беларусі, таму менавіта Расея як наступніца СССР павінна несці адказнасць за гэта злачынства, таксама і матэр'яльна.

Мітынг скончыўся пазней запланаванага. Калі мы з сябрам ехалі дахаты на тралейбусе за намі прыклеўся варанок, на адным з прыпынкаў з яго выскачыла плямістая зграя і схапіла нейкага мужчыну, у якога быў з сабою картонны плакат.

*Алесь Гурыновіч.*

## Басовішча ў Беларусі.

У сярэдзіне ліпеня ў Польшчы плануецца правядзенне фестывалю Басовішча. Папярэдне маркуецца правесці Басовішча ў Беларусі, на якім будуць адабраныя гурты для паездкі ў Польшчу.

Беларуская Музычная Альтэрнатыва прапануе ўсім гуртам, якія хочуць прыняць удзел у фэсце, даслаць свае 15-ці – 20-ці хвілінныя беларускамоўныя праграмы на відэа ці аўдыё па адрасе: 220085, Менск, аб. скрыня 5.

*Алесь Гурыновіч.*

## У траўні будзе горача

Менскай гарадской арганізацыяй ТБМ пададзена заяўка на правядзенне пікетавання на 11 траўня 2000 года з мэтай агітацыі за беларускую адукацыю, прапаганды стварэння нацыянальнага універсітэта.

Час правядзення з 16.00 – 18.00 у Міхайлаўскім скверы.

Таксама ад Таварыства пададзена заяўка на правядзенне мітынга 14 траўня з 17.00 – 19.00 перад Палацам Чыгуначнікаў. Гэта акцыя будзе прысвячацца пяцігоддзю ганебнага рэферэндуму, калі пятая калона фактычна скасавала дзяржаўны статус беларускай мовы.

Заяўкі на правядзенне пікетаў і мітынгаў пададзены і ў іншых гарадах Беларусі. У прыватнасці ў Лідзе пададзена заяўка на правядзенне пікета 14 траўня.

*Алесь Гурыновіч.*

## ТБМ адрадзілася на Гомельшчыне

16 красавіка адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Гомельскай вобласці. Акрамя дэлегатаў з Гомеля на ёй прысутнічалі прадстаўнікі з Светлагорска, Жыткавічаў, Акцябра (былая Рудабелка).

На канферэнцыі была абраная Гомельская абласная Рада ТБМ, у якую ўвайшлі Анатоль Бароўскі, Вадзім Болбас, Алесь Карнiенка. Алесь Міткавец, Васіль Нiкановіч, Зміцер Паўлавец ды Мікола Шуканаў.

Таксама была створаная і Рэвізійная камісія ў складзе Ніны Волкавай, Міколы Румянцава ды Наталлі Фраловай.

Старшынём Рады абралі пісьменніка Анатоля Бароўскага, ягонымі намеснікамі сталі Вадзім Болбас ды Васіль Нiкановіч. Рэвізійную камісію ўзначаліла Наталля Фралова.

*Мікола Лавіцкі, першы намеснік старшыні ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"*

## Медыя маніторынг

Сродкі масавай інфармацыі моцна ўплываюць на свядомасць людзей і на розныя грамадска-палітычныя працэсы ў краіне і за яе межамі. Таму СМІ часам ставяць ў адзін рад з уладамі заканадаўчай, выканаўчай і судовай і называюць чацвертай уладай. Па законах дэмакратыі, кожная з трох галінаў улады павінна кантраляваць адна адну. Чацвертая ўлада таксама заклікана кантраляваць гэтыя тры ўлады. Аднак сама яна застаецца непадкантрольнай (маецца на ўвазе аб'ектыўнасць і незаангажаванасць). Гэта асабліва небяспечна, калі ўлічыць, што чацвертая ўлада можа быць мацнейшай за тры іншыя, разам узятыя. Дзеля кантролю беларускіх сродкаў масавай інфармацыі ў сярэдзіне мінулага года была створана спецыяльная праграма "Медыя маніторынг" (даследванне СМІ). Удзельнікі праграмы – студэнты сталічных ВНУ, у асноўным юрыдычных факультэтаў і факультэта журналістыкі БДУ – на працягу амаль дзевяці месяцаў адсочвалі, як падаецца палітычная інфармацыя у праграмах "Панарама" (БТ), "Радыёфакт" (Радые-1) і ў шэрагу беларускіх дзяржаўных і недзяржаўных газет. Гэтая праца дазваляе выявіць розныя тэндэнцыі ў працы беларускіх СМІ. Да прыкладу, прадстаўляныя дыяграмы. Па іх бачна, як прэса ("Советская Белоруссия", "Рэспубліка", "7 дней", "Белорусская деловая газета", "Белорусская газета" і "Народная воля") ў лістападзе-снежні мінулага года асвятляла найбольш актуальныя тэмы: перамовы ўлады з апазіцыяй і расійска-беларускую інтэграцыю. Адначасова за аналізам зместу СМІ "Медыя маніторынг" ствараe аўдыё-, відэаархіў. Асаблівую важкасць праект можа набыць у перыяд перадвыбарных кампаній 2000-2001 гадоў. Дарэчы, у Славакіі, адкуль быў запазычаны беларускі праект, маніторынг сродкаў масавай інфармацыі значна паўплываў на ход выбараў прэзідэнта і ў парламент.

*Ігар Станкевіч.*

## Ліда. Сабрана 6300 подпісаў

Лідскія грамадскія арганізацыі заканчваюць збор подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт. Сабрана 6324 подпісы. На руках яшчэ некалькі соцень. Воля лідзян за БНУ выказана даволі ясна. Абы пачулі.

## Спадару Алесю Петрашкевічу



**Вельмішаноўны спадар Алесь!**

Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны ад шчырага сэрца віншуе Вас – знанага драматурга і грамадскага дзеяча, разам з тым і актыўнага сябра Таварыства ад самага пачатку ягонага існавання – з 70-ымі ўгодкамі ад дню Вашых народзінаў.

Талент ад Бога, глыбокае веданне гісторыі нашае краіны, менталітэту беларускага народа дазволілі Вам стварыць найзначныя творы, галоўнае месца ў якіх займае Чалавек, Мінулае, Сучаснасць!

Драматургія – гэта тая стыхія, дзе аднолькава вольна і хораша Вы пачуваеце сябе ўва ўсіх жанрах: ці то камедыя, ці то драма, ці то трагедыя. Прадуладныя Вашаму пяру й п'есы-фантасмагорыі. Народны гумар і з'едлівая сатыра Вашых твораў дапамагаюць нам пераадолець навалу сённяшніх дзён!

Вельмі радыя з таго, што маем за гонар першымі знаёміць чытачоў "Нашага слова" з Вашымі апошнімі п'есамі, і спадзяёмся, што ў хуткім часе пабачым іх таксама і на сцэнах беларускіх тэатраў.

Жадаем і надалей, каб пяро драматурга, майстра фельетону і адметнага публіцыста Алеся Петрашкевіча заставалася такім жа вострым, а слова трапным і надзённым!

Творчага Вам натхнення яшчэ на доўгія, доўгія гады жыцця!

*Сакратарыят ТБМ.*

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Бойчанка Д. П. | 1000р. |
| 2. Казлоўская І. І. | 300р. |
| 3. Дзямід Мікола | 2000р. |
| 4. Галай Аркадзь | 1000р. |

Усе Менск.

**Супрацоўнікі Бел. Радыё Свабоды**

| | |
|---|---|
| 1. Каліноўскі Валер. | 2000р. |
| 2. Груздзіловіч Алег | 1000р. |
| 3. Цытанкоў Віталь | 5 $ |
| 4. Максім Капран | 1000р. |
| 5. Ракіцкі Вячаслаў | 2 $ |
| 6. Маёрчык Ягор | 1000р. |

**Выдавецтва "Народная асвета"**

| | |
|---|---|
| 1. Яўген Гугас | 100р. |
| 2. Лапцёнак Ігар | 100р. |
| 3. Дзераш Ала | 100р. |
| 4. Пыльчанка А.І. | 100р. |

| | |
|---|---|
| 5. Потапов В.П. | 100р. |
| 6. Мінько Л.І. | 100р. |
| 7. Ясніцкая Л.М. | 100р. |
| 8. Цімафеева Л.Л. | 100р. |
| 9. Дударава В.А. | 100р. |
| 10. Абрамов Г.С. | 100р. |
| 11. Гуліцкая В.І. | 100р. |
| 12. Дубіцкая Т.С. | 100р. |
| 13. Асташэвіч С.Т. | 100р. |
| 14. Грынкевіч Л.В. | 100р. |
| 15. Літвіновіч Е.В. | 100р. |
| 16. Зань В.В. | 100р. |
| 17. Ляўчук Н.Г. | 100р. |
| 18. Лукашэвіч К.М. | 100р. |
| 19. Павленко Л.К. | 100р. |
| 20. Васіленка Э.Н. | 100р. |
| 21. Романкевіч З.Ю. | 100р. |
| 22. Ліцкевіч | 200р. |
| 23. Чепловодская | 70р. |
| 24. Аніскевіч С. | 100р. |

Усяго 2470 рублёў.

Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую ўдзячнасць удзельнікам Чарнобыльскага шляху, якія ахвяравалі на ТБМ 113 872 рублі і 6 даляраў.

Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі падтрымаць дзейнасць Таварыства. Сёння ТБМ праводзіць адно масавае мерапрыемства за другім. Усе яны патрабуюць вялікіх выдаткаў. Сакратарыят просіць дасылаць ахвяраванні на адрас: 220005, г. Менск, Румянцава, 13, або пералічаць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска, код 764. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11, 213-43-52.



№ 17 (454) 3 ТРАЎНЯ 2000 г. наша СЛОВА

Гук Уладзімір Пятровіч, в. Бобрык, Пінскі раён

# Закон аб мовах – вынікі і перспектывы

Даклад навукова-практычнай канферэнцыі "Закон аб мовах -- вынікі і перспектывы" 26 лютага 2000 года

## Нам засталася спадчына

*Але вярнуўся промень страчаны*
*У сэрцы плавіўся мядзень, -*
*І зноўку вера ў Слова Матчына*
*Свяціла мне, як белы дзень.*
*Н.Гілевіч.*

Роднае слова. Гэта тое слова, якое прыйшло ад маці, якое мы пачулі з матчыных вуснаў са з'яўленнем на гэты свет. Нават пакуль не разумеючы яго сэнсу. Роднае слова – гэта матчына мова. "Родная мова – гэта самае вялікае багацце, якім валодае кожны народ", - зазначае паэт С.Законнікаў. Гэта багацце, якое перададзена нам у спадчыну ад нашых продкаў, каб мы карысталіся ім, зберагалі і памнажалі. Родная мова - гэта наша шчасце і боль. Шчасце, бо мы – вялікі народ, шматпакутная нацыя, якая мае сваю мову, культуру, гісторыю. Боль, бо наша родная мова ўжо ў каторы раз на мяжы знішчэння. А знікне мова, адамрэ народ беларускі. Як слушна гаворыць С.Законнікаў: "Разам з роднаю моваю, нацыянальнымі духоўнымі, культурнымі традыцыямі чалавек страчвае вельмі многае, мяняюцца ягоная псіхіка, характар, натура, паводзіны, прытупляецца, а потым знікае пачуццё самапавагі, годнасці, адказнасці за сваю зямлю, яе будучыню, за лёс нашчадкаў у гэтым свеце. І сапраўды, мы ўжо многае страцілі, многае знікае ў нашым характары і паводзінах. Многае. Але яшчэ не ўсё. Яшчэ можна становішча выправіць.

Родная мова – гэта мова вялікіх людзей нашай Бацькаўшчыны: Ф.Скарыны і М. Гусоўскага, Ф.Багушэвіча і М. Багдановіча, Я. Купалы і Я.Коласа, М.Гарэцкага і Ц.Гартнага, І.Мележа і У.Караткевіча...

Гэта яны і сотні іншых славутых нашых сыноў і дачок нашай Бацькаўшчыны збіралі, шліфавалі роднае слова, зберагалі яго і перадалі ў спадчыну нам. І мы, сённяшняе пакаленне беларусаў, проста не маем права загубіць нашу мову, нашу культуру, нашу памяць.

Каб выратаваць родную мову, а разам з ёю і беларускую нацыю, нам неабходна згуртаваць усе свае сілы, аб'яднаць намаганні грамадства і дзяржавы.

## Жывое, роднае, гаваркое

*Адкуль ідзе такое згвалтаванне,*
*Хто навучыў нас грэбаваць сваім?*
*Чаму ад рання і да змяркання*
*Не размаўляем мы, а "гававрым?"*

*Чаму свой дом мы не шануем,*
*Бацькоўскай моваю не даражым?*
*Чаму, хто хоча, той нас і рабуе?*
*А мы маўчым, маўчым, маўчым.*
*А.Ключэўская.*

Роднае слова – гэта карані нацыі. Ці карыстаемся мы, нашы дзеці і ўнукі роднай мовай у паўсядзённым жыцці? Сённяшнія дзеці і школьнікі ў асноўным (90%) чуюць словы не з роднай мовы, а мовы блізкай нам суседкі Расіі. Добра гэта ці не, аб гэтым спрэчкі і быць не можа. Адназначна – дрэнна! Стан беларускай мовы пакуль што трымаецца на аматарах беларускага слова, на настаўніках роднай мовы і літаратуры, пісьменніках, асобных журналістах. Радыё і тэлебачанне на 80% рускамоўнае, а газеты і часопісы і таго болей.

Дзіву даешся, калі наглядаеш такую карціну. Гарадскія хлопчыкі і дзяўчынкі, якія вучацца ў школе, не ведаюць слоў "сякера", "боты" і г.д. Бацькі іх лічацца беларусамі. Слоўнікавы багаж маленькіх грамадзян Рэспублікі Беларусь зусім бедны. І не хлопчыкі і дзяўчынкі ў гэтым вінаваты. У гэтым віна бацькоў, выхавацеляк садкоў, настаўнікаў, грамадства і дзяржавы. Дома дзеці чуюць у асноўным рускую мову. Дык ці можа беларускае слова быць родным для іх?

Наступная ступенька – дзіцячыя садкі. Яны ў асноўным рускамоўныя. Беларуская мова тут чуецца зрэдку на беларускамоўных мерапрыемствах. Ці могуць дзеці пашырыць свой слоўнікавы запас ў гэтых выхаваўчых установах? Канечне, не.

Школа. Тут дзеці вясковых школ крыху набіраюцца вопыту беларускага маўлення. А гарадскія? Схапіўся за галаву, калі пачуў, што ў гарадской школе настаўнікі і вучні вывучаюць беларускую літаратуру на рускай мове. Парадокс. Ці можна будзе лічыць інтэлектуальнымі сённяшніх хлопчыкаў і дзяўчынак, якія стануць дарослымі грамадзянамі краіны? Бо і сённяшнія вучоныя, акадэмікі, журналісты, палітыкі, кіраўнікі розных узроўняў не валодаюць беларускай мовай. І горш таго – не хочуць і ляноуюцца вывучаць яе. Ці можам мы сцвярджаць, што мова беларусаў будзе жыць, што можна будзе чуць роднае, жывое слова? Жывое слова – гэта маўленне, гаварэнне чалавека, уменне карыстацца вуснай мовай і ўжыванне яе ў жыцці. Адкуль жа з'явіцца гэтае ўменне? Гавораць, што мова – душа народа, нацыі. Мова адмірае, то значыць і адмірае нацыя. Мы ў адказе за лёс і мовы, і нацыі. Пройдзе час, і з нас спытае гісторыя.

Няўжо нам так хочацца, каб пра нас гаварылі, што гэта тое пакаленне, якое загубіла мову і нацыю? Мы мусім зрабіць так, каб роднае слова жыло і стала гаворкім. Яно павінна гучаць з вуснаў маці і бацькі, бабуляў і дзядуляў. Ад іх павінна ўліваццa ў вусны дзяцей, унукаў і праўнукаў. Яно павінна гучаць дома, у дзіцячым садку, школе, .. яно павінна гучаць усюды і заўсёды.

## Будзіць і клікаць да жыцця

*"Братцы мілыя, дзеткі Зямлі – маткі!..*
*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмерлі!"*
*Ф.Багушэвіч.*

Навучыць дзяцей успрымаць і любіць родную мову – першачарговы абавязак бацькоў і педагогаў, грамадства і дзяржавы.

Жыццё ўсяму жывому на зямлі дадзена прыродай, Богам. Чалавек – вяршыня ўсяго жывога ў прыродзе. Ён валодае дасканалай мовай і розумам, каб жыць змястоўна і асэнсавана. А каб пражыць змястоўна і асэнсавана, трэба вучыцца. Вучыцца мовы і заўсёды.

Навучыць дзяцей разумець існасць чалавека жыцця, яго мовы, культуры і гісторыі, выхаваць у дзяцей любоў да ўсяго жывога, да чалавека, да нацыі, да матчынай мовы, нацыянальнай культуры і гісторыі Бацькаўшчыны – задача дзяржавы і грамадства.

Маё жаданне ўдзельнічаць у рабоце канферэнцыі абумоўлена не толькі маёй прыхільнасцю да ўсяго нацыянальнага: мовы, культуры, гісторыі, а таксама падзяліцца маленькімі набыткамі ўласнай работы па выхаванню любві да роднай мовы і павучыцца ў дасведчых людзей: вучоных і практыкаў нацыянальнага Адраджэння.

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны іграе вялікую ролю ў нацыянальным Адраджэнні Бацькаўшчыны. Яно павінна клапаціцца аб рабоце суполак на месцах вучобы, працы, жыцця, адкрываць новыя ў гарадах і раёнах, заводах і фабрыках, навучальных установах і вёсках. На жаль, у нашым раёне не існуе ні адной суполкі. У горадзе Пінску дзейнічае суполка, якой кіруе аматар роднай мовы, беларускасці. Чалавек, які не мае філалагічнай адукацыі.

## Мясцовыя СМІ і мова

*Беларускае слова ад Бога.*
*Слову нашаму Бог дапамог.*
*Хто не любіць яго, ад таго*
*Назаўсёды адвернецца Бог!*
*Р.Барадулін.*

У Пінску выдаецца каля дзесяці розных газет. Найбольш аўтарытэтнымі з'яўляюцца "Полесская правда", "Пинский вестник", Пинская неделя" і "Варяг". І ні адной беларускамоўнай. У 1997 годзе Пінск адзначыў свае 900-годдзе. Напярэдадні свята ў тры газеты даслаў адкрыты ліст да рэдактараў газет, каб хоць адна з газет перайшла на беларускую мову. Але ўсе рэдактары (Ю.Скараход, М.Ляшук, А.Квір) друкаваць мой ліст адказаліся, спасылаючыся адзін на другога. Нават не згадзіліся выдаць хоць адзін нумар на беларускай, як я прасіў у сваім лісце. Рэдактара "Пинской недели" Антона Квіра ўгаварыў адкрыць рубрыку "Літаратурная гасцёўня", дзе ўжо надрукаваны артыкулы пра паэтаў Брэстчыны: С.Грахоўскага, З.Прыгодзіча, М. Федзюковіча, В.Таўлая, Л.Дранька-Майсюка, Л.Тарасюк, М.Рудкоўскага, В. Гардзея, А.Разанава, А. Бадяка, П. Пракаповіча, В.Жуковіча. рубрыку вяду я, і яна будзе працягвацца. У гэтай газеце я – адзіны беларускамоўны аўтар. Вядуцца перамовы з рэдакцыяй "Пінскі веснік" (рэд. Марыя Ляшук) аб адкрыцці рубрыкі "Імя ў гісторыі нашай", дзе мяркуецца расказаць пра знакамітых нашых землякоў. Але пакуль безвынікова.

Калі ў гэтых двух газетах час ад часу з'яўляюцца беларускамоўныя матэрыялы, то ў "Полесскай правде" за восем месяцаў былі толькі адзін артыкул інспектара РАА, некалькі вершаў і ў двух газетах "Віншуем з узнагародай". Літаратурная старонка "Орбита" вядзецца на рускай мове, за выключэннем беларускіх вершаў. Трапіць з беларускім матэрыялам на старонкі гэтай газеты праблематычна. Усе журналісты гэтай газеты ярыя працiўнікі беларускай мовы.

"Варяг" выходзіць толькі на рускай мове. Пінск у сэнсе прэсы – гэта рэгіён Расіі. Мясцовае радыё і тэлебачанне – рускамоўнае. За весь час мне давялося прабіцца з беларускімі тэкстамі на раённае радыё: "Зорачка над хутаркам" (паэзія Н.Гарагляд) і "Дапамажыце, людцы добрыя, дапамажыце!" Зварот за дапамогай адкрыць музей Я.Янішчыц. Адкуль жа браць мове сілы, каб выжыць!

Тэлеканал "Варяг" – рускамоўны. Прапагандай мовы беларускай ён не займаецца.

## Чаму не загаварыла школа па-беларуску

На гэтае пытанне адказаць нескладана. Пры такіх адносінах улады да роднай мовы, школа ніколі не загаворыць па-беларуску.

Пачатак 90-х гадоў. Быў ужо прыняты Закон аб мовах. Канстытуцыя 1994 года замацавала за беларускай мовай статус дзяржаўнай. Закон аб мовах падняў аўтарытэт роднай мовы і патрабаваў ад усіх чыноўнікаў ведання мовы і ўмення ёю карыстацца. Улады павярнуліся тварам да беларускай мовы, як мовы нацыянальнай, дзяржаўнай.

У 1990 годзе ў газеце "Полесская правда", рускамоўнай, мне пашанцавала надрукаваць артыкул "Ці загаворыць школа па-беларуску?", я быў пераканаsucceeded, што школа стане беларускамоўнай. Толькі для гэтага патрэбна зусім маласць, каб дырэктары школ і загадчыкі аддзелаў адукацыі загаварылі па-беларуску. На жаль, артыкул ні ў школах, ні ў аддзелах адукацыі не абмяркоўваўся. Затое мой дырэктар і загадчык адрэагавалі па-свойму: разумнік знайшоўся! І вынік. Як водзіцца ў такіх выпадках, "разумнікаў" пачынаюць праследаваць, пачынаюцца козні. Але тым не менш, дырэктар пачаў гаварыць, хоць зрэдку, па-беларуску, а загадчык аддзела свае выступленні перад настаўнікамі рабіў на беларускай мове. Прыклад гэтаму даваў Вярхоўны Савет. Настаўнікі ўсіх прадметаў стараліся выкладаць на роднай мове. Усё, як кажуць, ішло на папраўку. Але раптам грымнуў рэферэндум. І ўсё, як карова языком злізала. Стала двухмоўе, якое адну мову, рускую, зрабіла дачкою роднаю, а другую, беларускую, - падчарыцай. А як жывецца падчарыцам, вядома з казак. І сёння ні адзін дырэктар па-беларуску не гаворыць. Нават і тыя, што выкладаюць беларускую мову і літаратуру. А які ж прыклад дае такі дырэктар сваім настаўнікам і вучням? Вядома які!

У другой палове 90-х гадоў у тую ж газету даслаў артыкул "Чаму не загаварыла школа па-беларуску". На гэты раз газета нават не стала друкаваць яго. Рукапіс, канечне, у архіў. Вось і уся размова. Пазіцыя газеты – гэта пазіцыя мясцовых улад да праблемы аб мове.

## Літаратурныя музеі

У нашым раёне сёння працуе тры літаратурныя музеі: Якуба Коласа, Яўгеніі Янішчыц і Аляксандра Блока. Музей Яўгеніі Янішчыц адкрыты да 50-годдзя з дня нараджэння паэтэсы ў лістападзе 1998 года. Ініцыятарам і рухальнай сілай была настаўніца роднай мовы і літаратуры Парэцкай базавай школы Сідарук Антаніна Паўлаўна, якая падключыла ўсіх настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Збіраліся сродкі ў школах, але іх яўна не хапала. Было вырашана праз мясцовы друк і радыё звярнуцца да арганізацый і бізнесменаў, патрыётаў Піншчыны, каб сабраць сродкі для будаўніцтва музея. Да нашаму сораму, ніхто не адгукнуўся на наш зварот "Дапамажыце, людцы добрыя, дапамажыце!" Але газетны матэрыял і выступленне па радыё дайшоў да раённай вертыкалі і на выканкоме быў абмеркаваны план і даручана аднаму з намеснікаў старшыні райвыканкама і загадчыкам аддзелаў культуры і адукацыі заняцца музеем. І музей быў адкрыты ў юбілейныя дні Я. Янішчыц. Сёння музей прымае наведвальнікаў, у асноўным школьнікаў. У газету дасланы матэрыял пра Я.Янішчыц з прапановаю да ўсіх зацікаўленых асоб праводзіць у лістападзе месяцы Янішчанскія літаратурныя чытанні. Што з гэтага атрымаецца, пакажа час.

Музей Якуба Коласа ўзначальвае былы настаўнік роднай мовы і літаратуры. Вялікі прыхільнік беларускасці Іван Калоша. Кожны год у музеі выходзіць рукапісны альманах "Каласкі", дзе спрабуюць свае сілы самыя маладыя паэтычныя таленты.

*Узрасце маладняк, стане моцнай сцяной,*
*Загучыць слова роднае – прашчурай слова.*
*І ад краю да краю Радзімы маёй*
*Будзе жыць беларуская мова.*
*Вадзім Казлоў, г.Рагачоў.*

Алесь Петрашкевіч

# ПРАГНОЗ НА ПАСЛЯЗАЎТРА

**(Фарс у двух дзеях)**

***Шаноўныя чытачы!***

***Задума п'есы ў жанры фарса ўзнікла ў той дзень, калі ветэраны пад чырвонымі сцягамі пры падтрымцы ўладаў не пусцілі моладзь пад бел-чырвона-белымі сцягамі ўскласці кветкі да абеліска Перамогі ў Мінску. Захацелася спрагназаваць, якое ж надвор'е будзе ў нашай краіне на бліжэйшыя 10 гадоў. У 1996 г. п'еса была напісана і пакладзена ў шуфляду. Прагноз на вялікі жаль спраўджваецца. Таму і дзялюся ім з Вамі, маімі чытачамі.***

***З павагай Алесь Петрашкевіч.***

**У белай пене праносяцца коні, -**
**Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.**

**Максім Багдановіч.**

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:**

***а) Удзельнікі судовага працэсу:***

***Иванов – Чингизханов*** – старшы брат усіх народаў, памёр да спектакля.

***Халуевіч*** – "истинно-русский патриот" з тутэйшых, бесcмяротны.

***Козалупова*** – "истинно-русская патриотка" з пашахоння, адвечная.

***Каліноўскі*** – беларускі нацыянал-дэмакрат, падсудны.

***Касцюшка*** – абаронца падсуднага, самаадданы.

***Суворов*** – прадстаўнік пацярпелага, прафесійны.

***Муравьёв*** – пракурор, жалезабетонны.

***Сапежанка*** – суддзя, патомная.

***Агінская*** – сакратар суда, прыгожая і адукаваная.

***Радзівіл*** – судовы эксперт, сумленны, але няўпэўнены.

***б) Прысяжныя засядацелі:***

***Доктар Грыц*** – ад навукі і не дурны.

***Фельчар Кац*** – ад нацменшасцяў і яшчэ разумнейшы.

***Есаул Егулагов*** – ад ветэранаў, як класава свядомы.

***Генерал Салдафонов*** – ад дзеючай арміі, рашучы, як маршал.

***Сталіна Сельсаветава*** – ад калгаснага сялянства, цёмная як "пробка".

***Октябрина Метростроева*** – ад рабочага класа, светлая, як бутэлька.

***Отец Сергий*** – ад найлепшай канфесіі, крыху грэшны.

***Казімір Станкевіч*** – ад горшай канфесіі, амаль святы.

***Нямцоў – Глушкін*** – ад таварыства глуханямых, без слоў.

***Семиглазова*** – ад таварыства сляпых, без паняцця.

***Апякін*** – ад творчай інтэлігенцыі, плаксівы.

***Некурвінская*** – ад сродкаў масавай інфармацыі, незалежная.

***в) Упаўнаважаныя "стаяцелі":***
***Канвойныя пры падсудным.***
***Суровы лік улады пры "исполнении".***

***г) Публіка ў зале суда*** -- звычайная нехлямяжная бэсэсэраўская.

**П Р А Л О Г**

*Зала паволі зацямняецца і зноў асвятляецца. Перад заслонай за піўной стойкай Иванов – Чингизханов і Халуевіч "кайфуюць" за куфлем напою з таранькай. Першы ў гарнітуры 50-х гадоў пры парадзе ветэранскіх адзнак да пупа, другі ў нязменнай фуфайцы і кірзе. Ён без медалёў і адзнак, бо маладзейшы. Над імі бэсэсэраўскі сцяг на палцы, уваткнутай у дзірку стойкі.*

***Иванов – Чингизханов.*** Ещё пить будешь?

***Халуевіч*** *(з лакейскай гатоўнасцю)*. З такім чалавекам, як Вы, Авангард Батыевіч, я гатовы бочку выпіць, а не то што гэты кухаль!..

***Иванов – Чингизханов*** *(дражніць)* Кухаль-мухаль! Гогаль-могаль!.. Хороший ты парень, Холуевич. И пьёшь хорошо... на халяву, но прёт из тебя эта белорусская тутэйшесть, удивиться можно...

***Халуевіч*** *(вінавата)*. Прот, Авангард Батыевіч. Прот і нікакога спасення...

***Иванов – Чингизханов.*** Что уж "прот", то "прот".

***Халуевіч*** *(апраўдваючыся)*. Бацькі, гады, самі гэтак гаварылі і міня на век пакалечылі... С цех пор язык по-рюску і не гнётца, хоць ляж і канай! *(Сам сябе дражніць)*. Рукі-брукі, мора-Бора! *(Сплёўвае і мацюкаецца на чыстай рускай мове)*.

***Иванов – Чингизханов.*** М-да!.. Это, наверно, единственное, что ты правильно произносишь по "рюску".

***Халуевіч*** *(рагоча)*. Гэта точна... *(Б'е кулаком па стойцы)*. Но дзяцей, паразітаў, я здзелаю рускагарадскімі ў чом бы тое ні стала! Калёным жалезам высмалю з іх ету дзеравеншчыну! І вождзь будзет на маём баку, а не толькі бальшавікі, віціраны і аграрная парція.

***Иванов – Чингизханов.*** Болтаешь ты много, Холуевич...

***Халуевіч.*** Хто, я?..

***Иванов – Чингизханов.*** А то!.. Или думаешь, я не в курсе, как твои ублюдки с "бел-чырвона-белай" портянкой вслед за "зянонами" бегают?!

***Халуевіч*** *(вінавата)*. Бегают, з..нцы, і яшчо як бегают... *(Выпівае сваё піва ледзве не да донца куфля)*.

***Иванов – Чингизханов.*** И славную твою фамилию компроментируют.

***Халуевіч.*** Когда б толькі кампраменціравалі, то хрэн бы з імі. А то ж вабшчэ хочуць замяніць на іншую. Еслі ты, гаварэць, Халуевіч, то мы, мол, не жадаем...

***Иванов – Чингизханов.*** А вот это уже опасно с классово-политической точки зрения.

***Халуевіч*** **(вельмі самотна)**. Хіба я не панімаю, што апасна...

***Иванов – Чингизханов*** *(дапіўшы піва)*. Холуевичи должны оставаться Холуевичами. Холуевич для белоруса – звучит гордо!

***Халуевіч.*** Я і сам такога мненія... *(Запявае)*. Мы, беларусы, з братняю Руссю разам шукалі... і хоць ні х...а не нашлі, но я цібе – брат да гроба!

***Иванов – Чингизханов*** *(п'янеючы)*. М-молодец, Ясик! Вот за этот интернационализм и галерантность в доску я и люблю наших меньших братьев белорусов. *(Гладзіць Халуевіча па галаве, узнёсла цытуе)*... И осердясь не бью по голове!.. *(Крычыць.)* Клава!!! Клава, ещё пива с подогревом!..

***Халуевіч.*** За падагрэў спасібачка, Авангард Батыевіч! Век не забуду. *(Лезе цалавацца)*.

***Иванов – Чингизханов*** *(з агідаю адхіляе Халуевіча)*. Да ладно тебе слюнявить.

***Халуевіч.*** Панял! Усё панял...

***Иванов – Чингизханов*** *(літаральна ўзрываецца)*. Не "панял", а "понял"! Ещё раз скажешь "панял" – убью! *(Спакайней.)* Ты меня панял, Холуевич?!

***Халуевіч.*** Понял, Авангард Батыевіч! Понял.

***Иванов – Чингизханов*** *(безнадзейна махнуўшы рукой)*. Тебе не фимилию, а мозги менять надо и капитально.

***Халуевіч.*** З Вамі хоць січас...

***Иванов*** – Чингизханов. Че-во-о?..

*Козалупава прыносіць два куфлі піва, ставіць на стойку. Змятае тое, што засталося ад таранькі. Халуевіч частуе кампаньёна новай таранькай.*

***Иванов – Чингизханов.*** Спасибо, друг... Вот она – Козалупова. Клавдия Кузьминична Козалупова – дочь потомственного деятеля сельпо и нарпита с чисто русской фамилией.

*Зацікавіўшыся, Козалупова затрымліваецца.*

Или, скажем, я – Иванов-Чингизханов Авангард Батыевич. Разве я должен это менять?! За этим же целая история великой страны!... *(На нейкі момант заціхае, а потым ціха запявае)*. ... жила бы страна родная и нету других забот... Нет, ты скажи, товарищ Козалупова, у тебя есть другие заботы?! Или нет?!

*Козалупова падбачэньваецца і з'едліва пасміхаецца.*

*(І плаксіва і ярасна)*. Такую страну развалили, раскромсали... сволочи! Такую армию из Европы вывели – по домам распустили! С ней же, непобедимой и легендарной, всю вселенную можно было пройти!.. *(Саркастычна.)* Бросок на Восток!.. Да мы с такой армадой могли наброситься на все четыре стороны света!.. Партию – угробили, союз – распустили, державу социалистическую под орла подвели, льготы – отменили... *(Да Халуевіча і Козалуповой)*. Вы мне скажите: могу я жить без льгот и путёвок или не могу?! *(Праз доўгую паўзу.)* Козалупова молчит... Говори ты, Холуевич! Могу или не могу?! Только честно!

***Халуевіч.*** Магёш, Авангард Батыевіч, калі чэсна. Магёш, но не хаціш.

***Иванов – Чингизханов.*** Именно, Ясик! *(Цалуе Халуевіча.)* А ты, Козалупова, - стерва! Иванов-Чингизханов любит вождя, но он не хочет рыночного социализма...

***Козалупова.*** Ты старый пенёк, потому и не хочешь. А я молодая сосёночка, потому и хочу ... очень.

***Иванов – Чингизханов.*** Исчезни с глаз, сосёночка, пока я не рубанул тебя под корешок!...

*Козалупова з выклікам выходзіць, кінуўшы на стойку смецце ад таранькі.*

Курва кооперативная! *(Змятае смецце на подлогу)*.

***Халуевіч*** *(бярэ свой поўны куфель і чокаецца з куфлем Иванова-Чингизханова)*. А мне што той сацыялізм недаразвіты, што еты кірмашовы – адна хрэн.

***Иванов – Чингизханов.*** Обыватель ты "затурканы, спадар Халуевіч".

***Халуевіч.*** Няхань сабе... Я не адзін такой...

***Иванов-Чингизханов.*** *Тут і далей малюнкі Аляксея Марачкіна*

***Иванов – Чингизханов*** *(вельмі агрэсіўна, амаль крычыць)*. Из-за таких, как ты и тебе падобным демократы голову подняли! "Адраджэння" захотели?! "Гістарычнай праўды". "Роднай моўкі". "Памяці"...

*Падыходзіць Каліноўскі.*

***Каліноўскі.*** Маё шанаванне спадарству! *(Ставіць свой куфаль на стойку)*.

***Иванов – Чингизханов.*** Че-во-о?!

***Халуевіч.*** Во за такімі спадарамі мае сапліўцы ўляглі... (Цягнецца да значка Пагоні на куртцы Каліноўскага).

*Каліноўскі адводзіць руку Халуевіча, адступае ад стойкі.*

***Иванов – Чингизханов*** *(наліваючыся ярасцю і злосцю)*. Как же ты, "шаноўны спадар", мать твою в душу, посмел в такой день встать перед ветераном, борцом и защитником трудового народа с этим полицейским знаком на груди?!.

***Каліноўскі.*** А што, спадар "ветеран, борец и защитник" яшчэ і ў паліцыі служыў, што так "добра" ведае, чый гэта знак?..

***Иванов – Чингизханов*** *(істэрычна)*. Я – в полиции?!. Сука демократическая, я же вот на этом животе *(ляпае сябе па добрым узвышшы)* от Сталинграда до Берлина прополз...

***Каліноўскі*** *(вельмі спакойна)*. Мой дзед пад Сталінградам і застаўся. А вы шчаслівы – жывот нават не сцёрся...

***Иванов – Чингизханов*** *(крычыць)*. Удавлю падлу бэнэфовскую!!! *(Цягнецца да горла Каліноўскага)*.

*Святло раптам гасне. Чуецца пахавальная музыка. Заслона паволі падымаецца. Сцэна асвятляецца.*

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ**

*Зала пасяджэнняў суда прысяжных. На ўзвышанні стол старшыні суда. За сталом крэсла з высачэзнай спінкай і дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь на ім. На сцяне за крэслам разгорнуты чырвона-зялёны сцяг. Злева ад стала старшыні суда столік для сакратара. За ім на ўзвышэнні крэслы для прысяжных засядацеляў. Унізе бліжэй да залы клетка для падсуднага. Перад ёю стол для адваката. Злева, насупраць клеткі, стол для пракурора і прадстаўніка пацярпелага. Па цэнтру залы, бліжэй да стала старшыні суда, трыбуна-падстаўка для сведкаў. Самі сведкі размясцяцца ў першым радзе крэслаў залы суда.*

*Чуваць мелодыя музычнага званка. З'яўляецца* ***А г і н с к а я*** *– маладая, строгая, прыгожая.*

***Агінская.*** Прошу встать, суд идёт!..

*Уваходзіць* ***С а п е ж а н к а*** *ў мантыі суддзі, за ёю пракурор, адвакат, прадстаўнік пацярпелага, сведкі, эксперт. Прысяжныя засядацелі выходзяць з бакавых дзвярэй, што за іх крэсламі. Усе падыходзяць да сваіх месцаў, але не садзяцца. Гучыць бэсэсэраўскі гімн. У калоссі герба замест контура зямлі беларускай у залатых промнях свеціцца Суровы Лік Улады. Ён будзе з'яўляцца, як наглядчык у тых мясцінах спектакля, дзе, на яго думку, будзе існаваць пагроза дзяржаўным устоям, ці з нейкай урачыстай нагоды. Наогул, гэта будзе не сама канкрэтная Улада, а толькі наша ўяўленне пра яе.*

*(Па сканчэнні апошніх слоў гімна)*. Прошу сесть... *(Да суддзі.)*

Все лица, участвующие в настоящем процессе, находятся в зале суда.

*( Працяг у наступным нумары.)*

# Ці магчыма была тая Перамога без Беларусі?

## Што гэта зараз: свята ці дзень вялікай жалобы і роздуму?

*Маім заўчасна загінуўшым у юнацкім узросце землякам, родным і сябрам дзяцінства Шабусаву Васілю, Карпаву Івану, Гарохаву Мікалаю, Цэхаву Мікалаю і іншым аднавяскоўцам, знесеным вайною ў небыццё, прысвячаецца...*

Пытанне, пастаўленае ў назве артыкула, не выпадковае. Яно даўно ўзнікла ў маім усведамленні, дзе назаўжды зафіксаваны перажытыя імгненні жудаснага ўзаемазнішчэння ў супрацьстаянні шматмільённых мас людзей, якойсьці д'ябальскай сілай кінутых у тое смяротнае супрацьборства пры адсутнасці хоць якой-небудзь бачнай вінаватасці з аднаго і другога боку. Бо ні асобныя Фрыцы з Гансамі і Карламі, ні асобныя Іваны з Пятрамі і Васілямі ўзаемна нічога дрэннага адзін аднаму да гэтага часу не рабілі і нават ніколі не сустракаліся. Але ў гэтым крывавым хаосе, які не ўспрымаецца сферай звычайнага чалавечага розуму, у цэлым была бачная неабходнасць менавіта гэтай Перамогі для будучага ўсёй сукупнасці народаў. Названае вышэй пытанне быццам бы непрыкметна выплывае само сабой на фоне гэтых цяжкіх разважанняў напярэдадні 9-га мая, які называюць Днём Перамогі, і станавілася выразна адчувальным менавіта ў гэты Дзень, калі ва ўрачыстых купчастых прамовах прадстаўнікоў адпаведнага вярхоўнага кіраўніцтва і ва ўгодлівых тлумачэннях сродкаў масавай інфармацыі перабольшвалася (а іншы раз і вельмі празмерна) роля СССР у ажыццяўленні той Перамогі наогул, а "вялікага рускага народа", у прыватнасці. Гэтым ускосна (а часта нават і адкрыта) прыніжаецца годнасць іншых этнасаў і нацый, таму што тады перамаглі сумесныя намаганні ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва. Але пра гэта далей. Зараз жа пакуль аб іншым.

### *1. Ці можна было пазбегнуць той вайны?*

У гэтым кірунку ў сродках масавай інфармацыі ўсё часцей і часцей сцвярджаецца: МОЖНА! У доказ прыводзіцца шмат разнастайных спасылак на тое, што вярхоўнаму кіраўніцтву СССР наогул, а І. Сталіну, у прыватнасці, пачынаючы з 4 ліпеня 1940 г., савецкая разведка сістэматычна паведамляла звесткі, якія пацвярджалі падрыхтоўку фашысцкай Германіі да вайны. Яна была звязана не толькі з перакідкай нямецкіх войскаў з акупаванай Францыі непасрэдна да межаў Савецкага Саюза. Так, па розных звестках, лічыцца, што І. Сталіну быў вядомы нават сам факт падпісання Гітлерам 22 ліпеня 1940 г. дырэктывы на распрацоўку плана нападу на СССР, які атрымаў назву "Барбароса". У дадатак адпаведныя паведамленні здабываліся ці купляліся савецкай разведкай сістэматычна. Хоць сам план у "маскоўскія рукі" не трапіў, але асноўны яго змест "чытаўся" выразна па падрыхтоўчых дзеяннях нямецкай арміі. Потым, напярэдадні непасрэднага нападу Германіі, восем разоў называлася і канкрэтная дата – 21 чэрвеня. І самае галоўнае ў тым, што гэтыя паведамленні Масква атрымала незалежна з Хельсінкі, Сафіі, Лондана, Берліна, Вішы (Францыя), Жэневы, нямецкага пасольства ў самой Маскве, Токіо (ад Рыхарда Зорге). Нельга сказаць, што на такую інфармацыю Масква не звяртала ніякай увагі. Пэўныя падрыхтоўчыя мерапрыемствы з боку Савецкага Саюза безумоўна былі. Так, недзе ў красавіку – маі 1941 г. ажыццявілі частковую мабілізацыю рэзервістаў з іх наступнай канцэнтрацыяй каля заходняй мяжы СССР. Рабіліся і некаторыя іншыя захады абарончага характару. Але ў цэлым рашучай падрыхтоўкі да вайны менавіта ў гэты момант з боку Масквы не назіралася. Ёсць, праўда, канкрэтныя звесткі аб дырэктыве да пагранічных войскаў, накіраванай Наркаматам абароны СССР і генштабам 15 чэрвеня 1941 г. У ёй прапанавалася рыхтавацца, каб адбіць "нямецкі напад 22-23 чэрвеня". Але на заканчэнне мелася папярэджанне: "Не паддавацца на правакацыі". Розныя прычыны і абставіны прымушалі Сталіна ставіцца з падазронасцю да бясспрэчных агентурных паведамленняў. Па-першае, ён вельмі баяўся вайны менавіта ў той час. Па-другое, яго зачаравалі "сяброўскія дамовы" з Гітлерам, у адпаведнасці з якімі савецкія войскі захапілі ўсю Прыбалтыку, Бесарабію, Паўночную Букавіну і меліся "моцныя" дамоўленасці наконт сфер "уплыву". Па-трэцяе, хваравіты характар "бацькі ўсіх народаў" прымушаў яго ставіцца з найвялікшай падазронасцю да ўсяго, а больш – да фактаў, у якія яму не хацелася верыць. Асаблівая асцярожнасць была ў яго адносна "крывавых" ворагаў камунізму, гэта значыць кіраўнікоў з лагеру "імперыялістаў". Па-чацвертае ж, мелася ўнутраная перакананасць, што "сябар" – фюрэр не здрадзіць. У адпаведнасці з адзначаным І.Сталін паехаў 21 чэрвеня 1941 г. у 23 гадзіны з Масквы на дачу. Не знаходзіліся на сваіх працоўных месцах таксама начальнікі знешнепалітычнай разведкі і наркам дзяржбяспекі.

Акрамя гэтага, ёсць і іншыя меркаванні наконт прычын надаверу з боку І. Сталіна да дакладнай інфармацыі адносна непазбежнасці нападу Гітлера на Савецкі Саюз у той канкрэтны час. Яны звязаны быццам бы з няшчырымі паводзінамі Англіі і ЗША. І гэта – нягледзячы на тое, што толькі Англія засталася тады сам на сам з магутнымі полчышчамі Гітлера пасля захопу ім усёй Заходняй Еўропы! А ЗША, якія імкнуліся да нейтралітэту і таму не мелі падрыхтаванай арміі, былі з усімі сваімі рэсурсамі цалкам з сяброўскай для іх Брытаніяй! Спробы Гітлера схіліць Чэрчыля на здраду патрабаванняў сумлення і адказнасці перад чалавецтвам (вядомы скачок з парашутам над Англіяй Геса і інш.) цалкам праваліліся. Пра ўсё гэта Сталін добра ведаў. І працягваў прымушаць сябе верыць у магчымасць пазбегнуць вайны з фашысцкай Германіяй і наступнае сатанінскае кіраванне разам з ёю ўсім светам.

Але ў сапраўднасці вайна была тады непазбежна. У той час чалавецтва наблізілася да мяжы, за якой два, амаль аднолькава моцныя драпежнікі (фашызм і бальшавізм) не маглі далей суіснаваць поруч. Гітлер імкнуўся рэалізаваць свае "доўгатэрміновыя расавыя і экспансіяніцкія мэты адносна Савецкага Саюза". Яго планы "ў большай ступені будаваліся на існых уяўленнях аб германскай гегемоніі ў Еўропе, аб заваяванні і выкарыстанні рускіх тэрыторый" ("Guten Tag" № 7/91) і, безумоўна, на ідэалогіі перабудовы свету на антычалавечных прынцыпах. Сталін жа ў адпаведнасці з тэорыяй марксізму-ленінізму імкнуўся таксама да сусветнай "гегемоніі", дзе будуць уладарыць пад яго мудрым кіраўніцтвам "галодныя і рабы", каб "разбурыць дашчэнту ўвесь свет" і пабудаваць практычна адну на ўсю Зямлю краіну, у якой насуперак законам прыроды "хто быў нічым, той стане ўсім", да чаго нават Гітлер не дадумаўся. Розныя палюбоўныя дамоўленасці паміж СССР і Германіяй, такія, як пакт "Рыбэнтропа-Молатава", толькі адцягвалі час непазбежнай смяротнай схопкі. І што б зараз ні пісалі пра магчымасць прадухілення той вайны, існуе толькі адна непарушная ісціна: вайна была непазбежнай! Праўда, меліся шанцы змяніць яе ход, звузіць маштабы, зменшыць ахвяры, прадухіліць фашысцкі напад на Савецкі Саюз. Для гэтага трэба было, каб Сталін і Молатаў у 1939 годзе сталі ў адзін шэраг з краінамі СУМЛЕННЯ сусветнай супольнасці і, заняўшы Брэст, пайшлі далей на Захад да сустрэчы з палякамі, чэхамі, славакамі, югаславамі, албанцамі, французамі, бельгійцамі, англічанамі, галандцамі, датчанамі, нарвежцамі для сумеснага супрацьстаяння гітлераўскаму фашызму. І не ў мэтах тэрытарыяльных захопаў і ўзбуджэння "галодных і рабоў". А для сумленных, па-чалавечы ўзважаных рашэнняў з улікам інтарэсаў усіх народаў. Але тое не магло адбыцца. Таму што Сталін заставаўся такім, якім ён быў.

### 2. Вядучыя краіны свету перад выбарам: з бальшавізмам ці з фашызмам.

Гэтыя краіны (Англія, Францыя, Канада, Аўстралія), як вядома, адмоўна ставіліся, як да фашызму, так і да бальшавізму. Але ў супрацьстаянні гэтых адмоўных сістэм яны схіліліся на ваеннае партнёрства з СССР. Выбар імі канчатковага быў вымушаным, пакутлівым. Пераважыла добрая вера ў патэнцыял народаў тагачаснага СССР, у перспектыўныя магчымасці іх стаўлення на шлях развіцця ў агульначалавечым сэнсе гэтага слова. Ускалыхнуў заходні свет і намер Гітлера фізічна знішчыць яўрэяў, цыганоў і іншыя "непаўнацэнныя" этнасы.

Аднак такі выбар тагачаснымі краінамі сумлення быў зроблены і з далёкім прыцэлам: паступова нарошчваць прагрэсіўныя тэндэнцыі ва ўсіх краінах сусветнай супольнасці, каб потым спыніць агульны тлятворны ўплыў бальшавізму і даць магчымасць народам "імперыі зла" (як называлі СССР у цывілізаваным свеце) самастойна пакончыць з бальшавізмам. І не для задавальнення хваравітага азарту, а для адкрыцця гэтым народам шляхоў да самастойнага, ініцыятыўнага, творчага развіцця на грунце агульных выходных прынцыпаў: праз нацыянальна-этнічнае да агульначалавечага, ад агульначалавечага – да нацыянальна-этнічнага. Пры гэтым – з вяртаннем слову "нацыяналізм" яго спрадвечнага, Богам дадзенага сэнсу, як дзесна-ахоўнага пачуцця, у аснову якога закладзена на генным узроўні павага да сваёй нацыі і садзейнічанне яе развіццю пры захаванні правоў на тое самае для іншых народаў і нацый. У гэтым выпадку лозунг "Сусветная супольнасць – для кожнага народа і чалавека, а кожны народ і чалавек – для сусветнай супольнасці" робіцца сапраўдным і выратавальным шляхам прагрэсіўнага развіцця ўсяго чалавецтва. Слова "рынак" перастане быць кашчунскай з'явай з неабмежаванымі імкненнямі вытворцаў, здабывальнікаў рэсурсаў і розных пасрэднікаў абіраць іншых людзей дзеля ўласнай карысці. Таму што рынак паступова ператворыцца ў сістэму цывілізаваных, пэўным чынам накіроўваемых дзяржавай вытворча-спажывецкіх узаемавыгадных адносін вытворцы, пасрэдніка і спажыўца пад дэвізам: "У рынкавых справах прыбытак – галоўная мэта, але годнасць, сумленне і адказнасць перад грамадствам – вышэй за ўсё". Нічога гэтага пакуль што няма на прасторах былога СССР наогул, у тым ліку і на Беларусі. І не Перамога ў тым вінаватая, як часта гавораць. Вінаваты той стан грамадства, у якім пакінула яго людзям савецкая сістэма. Менавіта гэтая сістэма сфармавала ўмовы, у выніку дзеяння якіх у Беларусі спрацавалі выразныя недахопы дэмакратыі і на чале яе апынулася ўлада, якая не мае для гэтага адпаведных агульначалавечых якасцяў. Яе бурная дзейнасць пакуль што вядзе да знішчэння роду беларускага ў этнічным сэнсе з яго мовай і самабытнасцю, да міжнароднай ізаляцыі Беларусі, да ліквідацыі яе самастойнай дзяржаўнасці. Менавіта гэта і адбудзецца ў выніку стварэння руска-беларускай "саюзнай дзяржавы", у якой Беларусь урэшце рэшт ператворыцца ў звычайную частку Расіі з непазбежнай русіфікацыяй беларусаў. Адбудзецца непазбежна, нягледзячы на тое, што чалавецтва ўсё больш і больш усведамляе неабходнасць захавання ўсіх, нават невялікіх этнасаў, і прыкладзе дзеля гэтага максімальныя намаганні (супрацьстаянне генацыду косаўскіх албанцаў, супраціўленне вайне супраць чачэнскага народа і інш.). Таму што этнасы – з'ява ў прыродзе невыпадковая. Яны (як роднасныя групы людзей, асярэднена надзеленых сваімі адметнымі і абагульненымі на генным узроўні асаблівасцямі) створаны Богам з мэтай ажыццяўлення ўмоў для бесперапыннага агульначалавечага самаўдасканалення народаў праз эвалюцыйнае ўзаемадзеянне іх адрозненняў, як закладзеных прыродай, так і набытых. Урэшце рэшт павінна зразумець гэта і Расія, як і тое, што свет яшчэ не сустракаўся з такой з'явай, калі кіраўнік краіны рашуча змагаецца з асновамі яе этнічна-нацыянальнай і дзяржаўнай самастойнасці, навязваючы пры гэтым думку, быццам бы сам беларускі народ выказаўся за такое самазнішчэнне. І не проста зразумець, а рашуча адмовіцца ад паглынання сваёй "роднай" сястры Беларусі, пры ўсёй яго знешняй вялікадзяржаўнай выгадзе.



*Аляксей Саламонаў, доктар тэхнічных навук, прафесар*

### 3. Якой бы была ПЕРАМОГА без Беларусі?

Вышэй ужо гаварылася, што пытанне такога зместу не выпадковае, хоць афіцыйна яно нікоялі не ўздымалася наогул. Яно міжволі выклікаецца даволі частымі ў мінулым папрокамі з боку большасці расіян, якія па розных прычынах пераехалі на пастаяннае месца жыхарства ў Беларусь. У гэтым сэнсе асабліва вылучаюцца прадстаўнікі былога магутнага ваеннага корпусу і тыя, хто быў накіраваны сюды для ўмацавання савецкай улады з прычыны недаверу да беларусаў. І папрокі тыя абразлівыя, зневажаючыя нашу нацыянальную і агульначалавечую годнасць. Іх сэнс прыкладна такі: "Мы вас абаранялі, мы вас вызвалялі, мы вас адбудоўвалі, мы вас вучылі. А вы – такія няўдзячныя, патрабуеце дзяржаўнай самастойнасці, павагі да сваёй мовы, нацыянальнасці". Папрокі ў нахлебніцтве не спыняюцца і зараз. Так, у "Комсомольской правде" ад 07.4.2000 года чытаем: "В последние годы Советской власти Беларусь потребляла на 2,5 миллиарда долларов больше, чем производила". В 1999 г. дотация России составила 1,5 миллиарда долларов". Адсюль сам сабою напрашваецца вывад аб праве Расіі далучыць да сябе Беларусь. Прама ці ўскосна часта зневажаецца і ўся наша беларускасць. Гэта – не выдумка. Я адчуваю адзначанае безупынна, часта сустракаўся з ім пры выкананні абавязкаў старшыні Менскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы. Звязана яна з тым, што я ўсюды карыстаюся толькі сваёй роднай мовай, таму ў адказ іншы раз атрымліваю нават здзекі. Так, калі аднойчы ў тралейбусе я тлумачыў адной п'янай істоце (дарэчы, з барадою і прэтэнзіяй на інтэлектуальнасць), чаму я размаўляю па-беларуску, ён спачатку зняважліва паглядзеў на мяне. А потым дадаў: "Правільна робіць А.Лукашэнка, калі заклікае знішчыць такіх, як ты (так і сказаў – ты, хоць і бачыў мяне ўпершыню – А.С ). Я б не задумваючыся расстрэльваў такіх, толькі б плацілі". Калі ж я падняўся да выхаду, услед мне данеслася абразлівае пажаданне: "Перадай прывітанне Шушкевічу".

*(Заканч. ў наст. нумары.)*

